№ 74 (4121)

www.nv-online.info

23 верасня 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

## Не разлучымся!

*Шаноўныя сябры! Усяго 5 дзён застаецца да заканчэння падпіскі на IV квартал. Рэдакцыя будзе ўдзячна Вам за далейшае сяброўства.*

**Вы – з "Народнай Воляй", "Народная Воля" – з Вамі!**

АКТУАЛИИ



Светлана КАЛИНКИНА

## Искусство нытья

Все-таки удивительные мы люди. Вторую неделю после выборов нам приходится доказывать друг другу, что новость про двух депутаток-оппозиционерок в парламенте – это не плохая новость. Не плохая!

– Но ведь настоящих выборов не было…

– Но ведь Лукашенко самых сильных из оппозиции в парламент не пропустил…

– Но ведь два человека ничего не смогут…

И так каждый день со всех сторон.

Да, поистине демократических выборов не было. Да, небо должно было рухнуть на землю, чтобы нынешняя власть позволила попасть в парламент Статкевичу, Лебедько, Логвинцу или Губаревичу. Да, из 110 депутатов только два не лояльны к действующей власти, и это ничтожно мало для принятия или непринятия любого закона. Но давайте все-таки определимся, чего мы хотим: добиться изменений в стране или доказать свою правоту?

Конечно, все критики этих выборов правы. И никакого серьезного прорыва в демократию у нас не произошло. Как не случилось и осознания того, что выборы – это не ритуал с бумажками вокруг ящиков для избирательных бюллетеней, а важнейший инструмент управления государством, придуманный очень давно и не нами и доказавший свою эффективность. Александр Лукашенко отказался от этого инструмента, он управляет страной другими методами, силовыми методами, и в этом смысле он действительно «нереформируем», потому что продолжает упорствовать в своих ошибках. И мы можем еще долго это обсуждать, переставляя слова и добавляя все новые и новые сюжеты в доказательство своих тезисов.

Но почему надо отказаться от возможности обсуждать все это с парламентской трибуны, коль уж такая возможность представилась? Почему из всего вышесказанного некоторые делают вывод, что Анна Канопацкая и Елена Анисим как порядочные люди должны были отказаться от депутатского мандата и потребовать новых – честных, настоящих – выборов?

Ну, отказались бы. На несколько дней стали бы героями дня. А дальше что?

Если бы Александр Лукашенко вдруг подписал указ, что Партия БНФ, ОГП, БСДП (Грамада) включены в список тех общественно значимых организаций, которым установлена символическая плата за аренду помещений, мы бы тоже спорили: «Нет, надо платить по полной, потому что нельзя принимать подачки от режима»?

Если бы всей, а не только государственной, белорусскоязычной прессе и литературе вдруг дали налоговые льготы ради поддержки белорусского языка, «порядочные» газеты и издатели должны были бы отказаться от таких льгот?

Если бы мне вдруг позвонили с БТ и сказали: «Калинкина, принято решение дать тебе программу в прямом эфире. Говори и показывай, что считаешь нужным, приглашай кого хочешь», – надо было бы оскорбленно бросить трубку, потому что 99,9% остального эфира все равно остались бы прежними?..

Политика – это не искусство нытья, это искусство возможного. И чтобы добиться каких-то изменений, надо использовать любую возможность. Сегодня власть дала оппозиции возможность иметь в парламенте двух депутатов. Да по пять помощников у каждого. Итого – 12 человек.

И надо думать не о том, хорошо это или плохо. Надо думать о том, как наиболее эффективно этой возможностью воспользоваться.

Я, например, уже вижу несколько принципиальных, на мой взгляд, ошибок, которые готовы сделать неожиданно ставшие депутатами Анна Канопацкая и Елена Анисим с подачи своих команд.

Первая ошибка – верить в то, что в их округах выборы прошли без сучка и задоринки. Анатолий Лебедько, видимо, в это настолько поверил, что уже объявил о том, что Анна Канопацкая теперь и за президентский пост посражается. Такими заявлениями лидер ОГП «столбит» лидерство в оппозиции, но не более.

Вторая ошибка – заявлять, что будешь добиваться того, чтобы был принят такой закон или сякой закон. Это сизифов труд, потому что два голоса против 108 действительно ничего не решают, это несерьезно.

Ну и третья ошибка – это то, что Анна Канопацкая и Елена Анисим до сих пор не знакомы. Совсем не знакомы, даже не встретились. И это, конечно, никуда не годится!

А над всем остальным, как по мне, так просто надо работать. Если, конечно, мы хотим добиться изменений в стране, а не просто сотрясать воздух, доказывая свою правоту.

ПАЛІТКУХНЯ



## Чым закончылася парламенцкая кампанія для экстравагантнага Падгола?

*Некаторыя чытачы нашай газеты лічаць філосафа "дзіўным няўдачнікам", а сам ён называе свой удзел у выбарах "эфектыўным".*

**Уладзімір Падгол**, які балатаваўся на выбарах ад Партыі БНФ, быў адным з самых экстравагантных кандыдатаў. Падчас свайго першага тэлевыступлення прыйшоў у тэлецэнтр у танкісцкім шлеме і бронекамізэльцы. На тэледэбаты – з пластыкавымі жаночымі ногамі. А за некалькі дзён да выбараў Падгол абвясціў пра тое, што "сыходзіць з выбарчай дыстанцыі". Гэтай заяве папярэднічала яго фотасесія вярхом на кані *(на здымку – справа).*

*«Я выходжу ў знак пратэсту супраць фальсіфікацый"*, – сказаў тады спадар Падгол.

**– Ці ёсць у вас канкрэтныя факты фальсіфікацый па вашай акрузе, якія былі зафіксаваны назіральнікамі?** – пацікавіўся я ў філосафа.

– У нашай акрузе падчас фарміравання камісіі не пусцілі туды нікога з тых, каго заяўляла правацэнтрысцкая кааліцыя, – кажа **Уладзімір Падгол**. – Таму ўжо на старце кампаніі было зразумела, што будзе на фінішы. Што тычыцца вынікаў галасавання, то ў мяне няма канкрэтных фактаў па фальсіфікацыях. Хто іх будзе фіксаваць, калі людзей не пусцілі ў камісіі?

Дарэчы, днямі ў рэдакцыю прыйшоў ліст, у якім чытач напісаў: *"Калі вы пішаце на першай старонцы пра такіх, мякка кажучы, дзіўных няўдачнікаў, як Падгол, то гэта паказвае ўзровень вашай газеты".*

– Па-першае, калі пра мяне піша нейкае выданне, значыць, у гэтым выданні – плюралізм, – парыруе філосаф. – Па-другое, тыя, хто мяне крытыкуе, альбо агенты КДБ, альбо прадстаўнікі "русского мира", альбо людзі са своеасаблівым розумам, якія не чулі ніводнага майго выступлення. Нагадаю, што ва ўсіх маіх тэле- і радыёзваротах на першае месца было пастаўлена адраджэнне незалежнасці Беларусі, выхад краіны з дамовы аб Саюзнай дзяржаве і вайсковага саюза АДКБ і ўсталяванне паўнавартаснай мяжы з Расіяй… Уявіце, што ў інтэрнэце маё выступленне праглядзелі каля 50 тысяч чалавек! І што, скажаце, што мой удзел у выбарах не меў сэнсу? Ён – эфектыўны…

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ДАРЭЧЫ

Учора суд Маскоўскага раёна Мінска пакараў Уладзіміра Падгола на 15 базавых велічынь (315 рублёў) за акцыю «Шорцу пакет – заявы на пікет». 26 жніўня ён разам з кандыдатам у дэпутаты Алесем Таўстыка прыйшоў да Мінгарвыканкама, трымаючы ў руках вяроўку для бялізны, на якой былі прымацаваны апавяшчэнні аб сустрэчах з выбаршчыкамі, а таксама сцягі тых краін, дзе ёсць участкі для галасавання на выбарах дэпутатаў беларускага парламента. Міліцыя палічыла гэтую акцыю несанкцыянаваным мерапрыемствам, склаўшы ў дачыненні да Падгола адміністрацыйны пратакол.

СУД ДЫ СПРАВА

## Прысуд не змянілі…

*Палітвязень Міхаіл Жамчужны, які адбывае пакаранне ў папраўчай калоніі №14 у Навасадах, атрымаў адказ на наглядную скаргу, якую на пачатку жніўня накіраваў у Вярхоўны суд.*

Як паведамілі праваабаронцы, у скарзе **Міхаіл Жамчужны** ўказаў, што ў адносінах да яго меў месца не "працягваемы" аператыўны эксперымент, а паўторны, а крымінальная справа супраць яго была ўзбуджана больш як праз год пасля здзяйснення супрацьпраўных дзеянняў. Такім чынам, праваахоўныя органы штучна стваралі ўмовы, якія правакавалі яго на паўторнае здзяйсненне аналагічных дзеянняў, каб атрымаць доказы здзяйснення ім больш цяжкіх злачынстваў.

У адказе на скаргу палітвязня намеснік старшыні Вярхоўнага суда **Руслан Аніскевіч** адзначыў, што прысуд Міхаілу Жамчужнаму вынесены ў адпаведнасці з заканадаўствам. Суд касацыйнай інстанцыі дасканала праверыў довады скаргі асуджанага і дапаўненні да яе і ў выніку згадзіўся з вынесеным прысудам.

Таксама стала вядома, што заснавальнік праваабарончай установы "Платформ інавэйшэн" пераведзены ў іншы атрад папраўчай калоніі. І ўжо на новым месцы Жамчужны атрымаў першае папярэджанне – за тое, што ў яго нібыта была брудная тумбачка. Калі ён здзейсніць яшчэ адно парушэнне, то будзе лічыцца злосным парушальнікам. З гэтай нагоды Міхаіл Жамчужны накіраваў скаргу на дзеянні адміністрацыі калоніі.

Нагадаем, што ў ліпені 2015 года Міхаіл Жамчужны быў асуджаны Віцебскім абласным судом на 6 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі строгага рэжыму. 23 кастрычніка судовая калегія па крымінальных справах Вярхоўнага суда разгледзела касацыйную скаргу і прызначыла Жамчужнаму больш строгае пакаранне – шэсць з паловай гадоў пазбаўлення волі. Яго прызналі вінаватым у наўмысным выдаванні звестак, што складаюць службовую таямніцу, і ў незаконным набыцці сродкаў для сакрэтнага атрымання інфармацыі, што складае службовую таямніцу.

*"Яшчэ ёсць магчымасць падаць скаргу на імя старшыні Вярхоўнага суда,* – распавяла праваабаронца **Таццяна Равяка**. – *Усё ж такі да апошняга будзем спадзявацца на станоўчае рашэнне…"*

**Аляксандр НІКАНОРАЎ.**

АКТУАЛЬНАЕ ПЫТАННЕ

## Калі ўключаць ацяпленне?

Калі ж камунальныя службы распачнуць ацяпляльны сезон?

У Мінску рашэнне аб пачатку ацяпляльнага сезона прымае гарвыканкам, а па краіне – аблвыканкамы.

*«Вызначэнне тэрмінаў уключэння ацяплення грунтуецца на дадзеных аб сярэднямесячных тэмпературах вонкавага паветра, а таксама на прагнозах рэспубліканскага Гідраметэацэнтра»*, – цытуе sputnik.by начальніка аддзела энергетыкі ўпраўлення гарадской гаспадаркі і энергетыкі Мінгарвыканкама **Дзмітрыя Плашкова**.

Ацяпленне перш за ўсё ўключаць ва ўстановах сацыяльнага забеспячэння, калі сярэднясутачная тэмпература пяць дзён будзе трымацца ніжэй +10°С.

У жылых дамах, інтэрнатах і гасцініцах – калі тыя ж пяць дзён тэмпература будзе ніжэй +8°С.

Пасля гэтага ацяпленне ўключаць і ва ўсіх астатніх будынках.

Мяркуючы па доўгатэрміновых прагнозах, сярэднясутачная тэмпература ў верасні ніжэй неабходных лічбаў не апусціцца – нават не зважаючы на начныя замаразкі, удзень паветра праграваецца ў дастатковай меры, каб пачакаць з уключэннем цэнтральнага ацяплення.

ПОЗИЦИЯ

Сергей КАЛЯКИН,
лидер Белорусской партии левых «Справедливый мир»:

## «Если вы побеждаете с разрывом…»



*– Я вообще считаю, что объявленные официальные результаты голосования никакого отношения к волеизъявлению граждан не имеют. Это цифры, которые придуманы были заранее, до выборов. И сценарий назначенных кандидатов (на самом деле «депутатов») – он срабатывает. Разубедить меня можно только одним методом, другого нет. Надо, когда голоса считают на участках, чтобы все участники процесса видели и понимали, что посчитали. А мы опираемся на показания более полутора тысяч наблюдателей, доверенных лиц и кандидатов, которые были в день голосования на участках. Они констатировали, что результаты не знают не только наблюдатели – сами члены комиссий не знают, как образовались результаты. Это знал только председатель комиссии, который объявлял результаты голосования.*

*И мы об этом ведем речь не первый раз. И власть постоянно находит какие-то причины, почему это не сделать. Если вы побеждаете с разрывом в 90%, вы дайте этой оппозиции под телекамеру посчитать голоса, и пусть они сами объявят: мы проиграли. Ну вы же спрятали так, что сама Ермошина не знает, какие результаты голосования.*

**(Из выступления 12 сентября по телеканалу ОНТ во время программы «Дело принципа».)**

***

Как бы ни пыталась госпожа Ермошина доказать, что в Беларуси выборы проводятся на самом высоком демократическом уровне, ей не уйти от принципиального вопроса Сергея Калякина: когда у нас будет по-настоящему прозрачный подсчет голосов? И не только. А все эти манипуляции со списками избирателей? А выезд с урнами по домашним адресам? А досрочное голосование с отменой на несколько дней учебы в вузах? А… Впрочем, стоит ли перечислять все то, что не вписывается в действительно демократические выборы? Пока эти и многие другие вопросы не будут сняты с повестки дня, сознательная общественность не будет верить ни одному слову Ермошиной.

РУБАМ!

## Губарэвіч патрабуе…

Былы кандыдат у дэпутаты па 108-й Каліноўскай выбарчай акрузе Юрась Губарэвіч накіраваў скаргу ў Следчы камітэт па выніках выбараў у Палату прадстаўнікоў з патрабаваннем правесці праверку і пакараць вінаватых у фальсіфікацыях.

Актывіст руху "За Свабоду" сцвярджае, што падчас як датэрміновага, так і асноўнага галасавання шмат на якіх участках акругі, дзе ён балатаваўся ў дэпутаты, няправільна палічылі выбаршчыкаў, якія бралі ўдзел у галасаванні. Прычым разыходжанні ў колькасці прагаласаваўшых, якія зафіксавалі незалежныя назіральнікі, з афіцыйнымі дадзенымі мелі месца на большасці ўчасткаў Каліноўскай акругі. Разыходжанне ў яўцы падчас датэрміновага галасавання склала 5546 галасоў, а ў асноўны дзень выбараў, 11 верасня, больш за 9 тысяч! А гэта, сцвярджае кандыдат у дэпутаты, сведчанне таго, што выбары па 108-й акрузе не адбыліся.

Юрась Губарэвіч патрабуе правесці па дадзеных фактах праверку: апытаць назіральнікаў, праверыць спіс выбаршчыкаў і іх подпісы, абзваніць усіх выбаршчыкаў, правесці графалагічную экспертызу подпісаў у журнале ўліку выбаршчыкаў.

"Калі сумленна і прафесійна правесці праверку, то нескладана ўстанавіць тых сябраў участковых камісій альбо супрацоўнікаў выканкамаў, якія гэтыя фальсіфікацыі дапусцілі і ў дачыненні, да іх узбудзіць крымінальную справу па артыкуле 192 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь", – сцярджае Юрась Губарэвіч.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

